Маладзечна, Вілейка, Смаргонь, Ашмяны, Валожын, Мядзел, Астравец, Мінск

24 - 30 кастрычніка 1997 года

# Рэгіянальная газета

№43 (141)

ЦАНА 2000 РУБ. ІНФАРМАЦЫЙНА-РЭКЛАМНАЕ ВЫДАННЕ

ПРАГРАМА




5 старонка

## Конкурс "Фотамадэль рэгіёна"



ЭМА: Вілейка, 19 год, рост 170, вага 50; любіць мульцікі з Віні-Пухам і Карлсанам, увечары слухае спакойную музыку, расслабляецца; не любіць, калі яе злуюць, дакучаюць, не паважае рэзкіх людзей і кепскае надвор'е.

*Фота Віктара ЧАПСКАГА.*

# Ветэран камуністычнай працы з Беларусі будзе скардзіцца ў Маскву

*МАЛАДЗЕЧНА. Фіёне Рынкевіч 70 гадоў. 40 з іх адпрацавала санітаркай на "хуткай дапамозе". Яе, ударніка камуністычнай працы, ветэрана працы, узнагароджаную медалём, "дабіваюць" бытавыя ўмовы.*



Дом па вуліцы Прытыцкага, 11 псуе знешні выгляд вуліцы. "Апошні з магіканаў" з'яўляецца адначасова помнікам і гісторыі, і бяздушша да простых смяротных. Калісьці, па словах пенсіянеркі, у доме жылі кіруючыя работнікі банка. Сёння ў наяўнасці засталіся чацвёра жыхароў (прапісана больш). Трое пенсіянераў (аднаго з іх, інваліда І групы забрала даглядаць у Мінск дачка) і адзін працуючы.

Сама Фіёна Спірыдонаўна ні дня тут не заставалася б. Але куды падзецца? Сын з жонкаю і 9-гадовай Анюткай жыллё здымае. У дачкі аднапакаёўка ў Гродне. Зранку старая жанчына крочыць па ваду - калонка ля кнігарні. Пакуль дахаты вядро дацягне, 5 разоў спыніцца. Ежу гатуе ў рускай печы і на старой дзвюхканфорачнай пліце.

*Заканчэнне на 3-й стар.*

*Аўтары і сябры "Маладзёжнай рэгіянальнай газеты" запрашаюцца на чарговую сустрэчу ў рэдакцыі "РГ".*

**Стрэлкі назад!**

**26 кастрычніка а 3-й гадзіне** кожны з нас мусіць ажыццявіць пераход на зімовы час. Для гэтага неабходна перавесці стрэлкі гадзіннікаў **на 1 гадзіну назад.**

## Сям'я

## Аптымісты з Кальчунаў

*АШМЯНЫ. Святлана Сярпейка з вёскі Кальчуны свой першы верш напісала па-беларуску. Расіянка, маці пяцёх дзяцей наогул хоча дасканала вывучыць беларускую мову.*

У дзіцячым садку яна працуе выхавальнікам. У групе і свае - 5-гадовыя блізняты Даша і Саша. 8-гадовыя блізняты Юзік і Андрэй - школьнікі. 12-гадовы Сяргей ужо дапамагае па гаспадарцы. Бо бацька, што працуе на племстанцыі, і маці позна прыходзяць, стомленыя. Летам Сяргей і Юзік прынеслі дадому грошы - узнагароду аддзела адукацыі за выдатную вучобу.

Святлана па натуры аптыміст, чалавек творчы. Ёсць час і сям'ю дагледзець, і ў фальклорным калектыве паспяваць, карціны напісаць. "Творчая жылка ў мяне з дзяцінства. А вось працавітасці вучылася ў мужа", - гавораць жанчына.

*Святлана ВЯЛЬСКАЯ.*

## Навіны

## Восеньскі кірмаш

*СМАРГОНЬ. У мінулую нядзелю прайшоў "Восеньскі кірмаш-97".*

Сваю прадукцыю тут прадставілі амаль што ўсе гандлёвыя і гандлёва-прамысловыя прадпрыемствы Смаргоні. Выбар быў багаты. Гарадскія ўстановы культуры падрыхтавалі да свята канцэртную праграму, якая сабрала шмат гледачоў.

*Валянціна ВЕШТАРТ.*

## Мароз ударыў па дзецях

*МАЛАДЗЕЧНА. Не ўсё добра з ацяпленнем школ, дзіцячых садкоў у раёне.*

Настаўнікі Турэц-Баярскай СШ гавораць, што ў сераду ў класах першага паверха, якія размяшчаюцца над падваламі, тэмпература была бліжэй да нуля.

Патлумачыць сітуацыю мы папрасілі начальніка УКБ райвыканкома **Уладзіміра Марчанку:**

- На асаблівым кантролі 7 школ. У некаторыя з іх пададзена цяпло. Што рабіць, калі вобласць нам завінавацілася на ўтрыманне ведамаснага жылога фонду 16 мільярдаў. А рэспубліка дала вобласці толькі 2. Зробім і немагчымае, але нашы дзецi мерзнуць не будуць.

*Аддзел інфармацыі.*

## Кансультаваў тузін прафесараў

*СМАРГОНЬ. Тут прайшла выязная сесія навукова-даследчага інстытута неўралогіі і фізіятэрапіі Міністэрства аховы здароўя.*

Акрамя выступленняў і наведвання мясцовага аддзялення неўралогіі, 12 прафесараў бясплатна кансультавалі хворых, што стаяць на дыспансерным уліку. А гэта 105 дарослых і 111 дзяцей.

*Тарэса КУМІШЧА.*

## Вясковы бізнес

*АСТРАВЕЦ. Прадпрымальныя жыхары апошнімі днямі скупляюць яблыкі і оптам прадаюць у Мінску. "Прафесіяналы" сцвярджаюць, што за 2 рэйсы (возяць на легкавіках) зарабляюць да 3 мільёнаў.*

Крыху менш, але таксама някепска, маюць беспрацоўныя, што працавалі ў калгасах. Там ім плацілі бульбай - 10 працэнтаў ад накапанага. У каго хапіла на зіму - прадавалі.

*Янук СІВАКОЎ.*

## Акцыі

## Заяўка на мітынг

*МАЛАДЗЕЧНА. Мясцовая арганізацыя БНФ падала ў гарвыканком заяўку на правядзенне 2 лістапада мітынгу, прысвечанага Дню памінання продкаў "Дзяды".*

Мерапрыемствы, калі на гэта будзе дадзены дазвол улад, маркуецца пачаць аб 11 гадзіне ля памятнага знака "Пакутнікам за волю і незалежнасць Беларусі", што на Цэнтральнай плошчы горада.

*Алесь КАПУЦКІ.*

## Пікет будзе

*СМАРГОНЬ. Жыхар горада беспрацоўны В. Туравец падаў у райвыканком заяўку на правядзенне 26 кастрычніка пікета ў цэнтры горада насупраць гастранома "Юбілейны". Удзел у ім павінны прыняць 20 чалавек. Мэта пікета: "звярнуць увагу грамадскасці на беспрацоўе, нізкія заробкі і далейшае збяднение народа". У выпадку адмовы В. Туравец абяцае аб'явіць галадоўку.*

Райвыканком дазвол даў, але месца правядзення змяніў. Удзельнікі акцыі змогуць прадэманстраваць сваю нязгоду ў мікраралёне Прамысловы на пляцоўцы насупраць гандлёвага цэнтра. Мікраралён Прамысловы знаходзіцца на ўскрайку горада і дзверы гандлёвага цэнтра глядзяць у поле.

*Валянціна ВЕШТАРТ.*

## Віншуем са шлюбам!

Па райцэнтрах **за 13-19. 10** шлюб узялі наступныя пары:

**Ашмяны.** А. Шаверда і В. Дудовіч, С. Гайдукевіч і А. Ролiч, І. Міхалойць і С. Цiхановіч, А. Чумачэнка і А. Валюк.

**Валожын.** М. Раловец і І. Бацян, А. Журкевіч і А. Гаспарэвіч.

**Мядзел.** А. Януковіч і Е. Скадорава, Дз. Паслед і Т. Антановіч.

**Смаргонь.** Г. Лукашэвіч і І. Хаміцэвіч, У. Грышан і А. Мацэвіч, Г. Вяеўнік і С. Дзераза, Дз. Волк і С. Гіль, Ю. Суканаў і Д. Пяткевіч, С. Маліноўскі і Л. Любоўская, А. Вайцяховіч і М. Шайко.

## Віншуем з нараджэннем!

**За 13-19. 10** прыбавілася новых грамадзян:

**Ашмяны.** Аляксандра Скарабагатая, Максім Скарумян, Дзмітрый Гіруць.

**Валожын.** Яўген і Дзмітрый Пятровічы (двойня!).

**Мядзел.** Артур Клімовіч.

**Смаргонь.** Дзіна Кеда, Святлана Селязнёва, Яўген Шчыгло.

***Выказваем шчырую удзячнасць за дапамогу ў зборы інфармацыі супрацоўнікам ЗАГСаў Зінаідзе Казакевіч (Ашмяны), Людміле Раюн (Валожын), Іне Сакольскай (Мядзел), Алене Міжула (Смаргонь). Спадзяемся на звесткі з іншых гарадоў і раёнаў. Чытачы чакаюць.***

## Крымінал, здарэнні, хроніка

### Пайшла па смерць

***МАЛАДЗЕЧНА. 55-гадовая жыхарка вёскі Раёўка зранку пайшла па грыбы. Яшчэ ў 11 гадзін яе бачылі.***

А потым знайшлі забітую - з 14 нажавымі раненнямі і перарэзаным горлам. Не выключаецца магчымасць згвалтавання.

*Марына ТАЧЫНСКАЯ.*

### Пагадай, цыганка, на мільёны

***АШМЯНЫ. 17 мільёнаў 500 тысяч рублёў і 20 долараў ЗША пазбавілася жыхарка адной вёскі пасля візіту ў яе дом цыганкі.***

Напэўна, апошняя зайшла пагадаць на шчасце і ўсё лепшае, а атрымалася наадварот. А паколькі кошт паслуг цыганкі акаzаўся непрапарцыянальны працы, то яе шукае міліцыя.

*Мар'ян ВЯНГРОЎСКІ.*

### Смерць у павозцы

***АСТРАВЕЦ. У суботу на ўчастку шашы Полацк - Вільнюс аўтамабіль КамАЗ пры сустрэчным раз'ездзе наехаў на грузавую павозку.***

Жыхар вёскі Варона Раман Бурдук, які ехаў у ёй, загінуў на месцы здарэння. Вядзецца следства.

*Мар'ян ВЯНГРОЎСКІ.*

### "Пакрыўджаныя"

***СМАРГОНЬ. Ад пачатку года 77 гандляроў прыцягнулі да адміністрацыйнай адказнасці.***

Работнікаў магазінаў "Спектр", "Ранішняя зорка" павілі па 3-4 разы. Звычайныя парушэнні - адсутнасць неабходных дакументаў, абважванне, аблік.

А наогул, лічбы ўражваюць: 600 чалавек аштрафавалі на 80 мільёнаў рублёў.

*Аддзел інфармацыі.*

### Пабольшала

***ВАЛОЖЫН. На 3 адзінкі стала больш тэхнікі ў мясцовай міліцыі.***

ДАІ атрымала новы "Опель", крымінальны вышук - новы УАЗ. А чатырохгадовы УАЗ паехаў у Ракаўскае аддзяленне.

*Аддзел інфармацыі.*

### Станудь злодзеі фермерамі

***АШМЯНЫ. Крадуць цяпер усё, але па-розным. Адныя, каб прапіць, іншыя, каб мець капітал для адкрыцця ўласнай справы.***

У адной з вёсак з вытворчага ўчастка скралі плуг да трактара. Цана яго дасягае 15 "лімонаў". Мяркуецца, што злодзеі больш красці не будуць, а зоймуцца фермерствам.

*Янук СІВАКОЎ.*

## Вяртаючыся да надрукаванага

### Перамагаць выгадна

***АШМЯНЫ. Мы паведамлялі, што ўладальнікам галоўнага прыза рэспубліканскага конкурсу педагагічнага майстэрства стала Валянціна Гінчук, намеснік дырэктара СШ №2.***

Акрамя "Жыгулёў" (якія, дарэчы, стаяць у яе двары) пераможцу павіншавалі і дома. 5 мільёнаў даў выканком, і не меншую суму - аддзел адукацыі.

*Аддзел інфармацыі.*

### Тры дачкі

***АШМЯНЫ. Колькі часу таму "РГ" віншавала сям'ю Педчанкаў з нараджэннем адразу трох дачок. Немаўлятаў тады назвалі Вера, Надзея, Любоў.***

Жупранскі сельсавет, калгас імя Багушэвіча па неабходнасці дапамагаюць шматдзетнай сям'і. Акрамя таго, па рашэнні выканкома з 1 кастрычніка гэтага года па снежань наступнага Педчанкі штомесяц будуць атрымліваць па 4 мінімалкі.

*Аддзел інфармацыі.*

## Натуральны разлік

### За трактар плацяць мінчане

***СМАРГОНЬ. Звыш за 2 мільярды рублёў вінаватыя гаспадаркі, арганізацыі раёна Райаграпрамзабеспячэнню. Тыя згаджаюцца і на натуральны разлік.***

А нядаўна заключаны дагавор з Фрунзенскім раёнам сталіцы. За агародніну мінчане плацяць грашыма-- ліквідуецца запазычанасць, і ёсць магчымасць папаўняць трактарны парк раёна.

*Альберт КУМІШЧА.*

## Землякі

# Прэзідэнт, які нарадзіўся пад Радашковічамі

***Па-розным, часам абсалютна нечакана, складваюцца людскія лёсы. Хто можа ведаць, што чакае яго ці блізкіх наперадзе? Не мог валодаць такой прадказальнасцю і спраўны заходнебеларускі селянін з вёскі Сычавічы пад Радашковічамі Сымон Абрамчык, не мог сабе ўявіць нават у самым ружовым сне, што яго малодшы сын Мікола стане прэзідэнтам Беларускай Народнай Рэспублікі.***

Нядаўна я сустрэўся з сястрой Міколы Абрамчыка **Ганнай Сымонаўнай Камаед**, якая і сёння жыве ў Сычавічах. Дзякуючы ёй і сабраных мной звестках і раблю гэты расповяд.

Нарадзіўся Мікола 16 жніўня 1903 года ў Сычавічах. Вучобу пачаў у народным гарадскім вучылішчы ў Радашковічах, якое з часам ператварылася ў адну з шасці ў Заходняй Беларусі прыватных беларускіх гімназій, якую узначальваў **Аляксандр Уласаў** (дзяржаўных сярэдніх школ з выкладаннем на беларускай мове тады не існавала). Па сведчанні Ганны Сымонаўны, выпускніцы гэтай гімназіі, вучэльня паступова ператваралася ў аазіс беларушчыны. Сяляне з навакольных вёсак, у асноўным з Маладзечаншчыны, Вілейшчыны і Валожыншчыны, дзеля таго, каб іх дзеці атрымалі адукацыю на роднай мове, не шкадуючы апошняга гроша, везлі іх на вучобу ў Радашковічы. Але праз некаторы час польскія ўлады яе перавodзяць у Гарадок, а праз год зачыняюць увогуле.

Пасля сканчэння радашковіцкай гімназіі і кароткатэрміновых курсаў, Мікола настаўнічае ў Ленаўшчыне на Ашмяншчыне. Але цяга да далейшай вучобы не пакідае яго ні на хвіліну. Убачыўшы непрыцягальнае для сябе жыццё ў БССР (неадназова пераходзіў польска-савецкую мяжу, кірукючы да брата **Габрука** ў госці), ён адкідвае магчымасць вучобы ў Мінску. І ў 1924 годзе пераязджае ў Прагу, дзе атрымлівае вышэйшую інжынерную адукацыю. Падчас вучобы Мікола Сымонавіч знаёміцца з першым прэзідэнтам БНР **П. Крачэўскім** і яго намеснікам **В. Захаркам**, пачынае актыўна займацца палітычнай дзейнасцю. Напачатку 30-х гадоў пры ўдзеле Міколы Абрамчыка ў Францыі ствараецца культурна-асветніцкая арганізацыя "Хаўрус беларускай працоўнай эміграцыі". Пры парыжскім аддзяленні, якое ўзначальвае Абрамчык, дзейнічаюць курсы па падрыхтоўцы спецыялістаў розных галін эканомікі, вывучэнні французскай мовы, азнаямленні з беларускай культурай і мастацтвам, працуе бібліятэка-чытальня.



Падчас другой сусветнай вайны Мікола Абрамчык рэдагуе ў Берліне друкаваны орган "Беларускага прадстаўніцтва" газету "Раніца". У 1940 годзе ў Беластоку ён арганізуе Беларускі Камітэт Самапомачы. 6 сакавіка 1943 года, за тыдзень да сваёй смерці, другі прэзідэнт БНР Васіль Захарка перадае свае паўнамоцтвы Абрамчыку. Таксама нашаму земляку перадаюцца пячатка і архіў Беларускай Народнай Рэспублікі. У 1947 годзе Мікола Абрамчык афіцыйна абіраецца трэцім прэзідэнтам Крывіцкай Рады БНР. Апошні раз наведаў сваю радзіму Мікола Сымонавіч у кастрычніку 1943 года. Пабываў у сваёй роднай хаце ў Сычавічах, сустрэўся там са сваімі роднымі.

Далейшае, пасляваеннае жыццё яго прайшло ў Францыі, дзе ў 1947 годзе аднавіў дзейнасць культуралагічнай арганізацыі "Хаўрус", адначасова выконваючы да канца свайго жыцця функцыі прэзідэнта БНР. Змучаны цяжкай хваробай, тугой па далёкай радзіме, ён памер у Парыжы 29 мая 1970 года. Аднак дух яго, перанёсшыся з даўшай яму апошні прытулак Францыі, застаецца лунаць у родным краі, у душах тых, для каго незалежнасць нашай краіны не пусты гук, а адна з найвялікшых жыццёвых каштоўнасцей.

*Алесь ЦАДКО, Маладзечна.*

***На здымках:***
***1. 1928 год, другі дзень Велікодных святаў у Чэхаславакіі. Абрамчык першы злева.***
***2. Апошні раз на роднай зямлі. 1943 год, Сычавічы. Мікола Абрамчык-- другі злева.***
***3. Разам са сваёй пляменніцай ля ўласнага дома ў Парыжы. 1968 год. Фота з сямейнага архіва Ганны Сымонаўны Камаед (Абрамчык).***

### Гістарычная даведка

Пераемнікам Міколы Абрамчыка як прэзідэнта БНР стаў таксама наш зямляк, ураджэнец мястэчка Будслаў **Вінцэнт Жук-Грышкевіч**. У 1982 годзе прэзідэнтам БНР абраны **Язэп Сажыч**, а ў верасні 1997 года Раду БНР узначаліла **Івонка Сурвіла**, выпускніца Сарбоны, дачка былога міністра фінансаў ва ўрадзе БНР **Уладзіміра Шыманца**.

*Аўтар.*

# Аўкцыён за аўкцыёнам

***АСТРАВЕЦ. Мінулы тыдзень для лесаводаў быў адметны прайшоўшым аўкцыёнам па продажу лесу на корані. Забягаючы наперад, скажу, што падобныя аўкцыёны ў мясцовым лясгасе ўжо становяцца з'явай звычайнай і недзе неабходнай, бо праводзіць іх вымушае няпростае эканамічнае становішча.***

На продаж было выстаўлена больш за тры тысячы кубаметраў лесу. Прыемна ўразіла арганізатараў аўкцыёну копа ўдзельнікаў - іх было як ніколі многа. Гэта АТ "Карат" з Мінска, фірмы "Консул" з Ашмянаў і "Гурон" са Смаргоні, мясцовы цэх шырспажыву і іншыя. Асаблівасць аўкцыёну - удзел у таргах прыватных асоб і прадстаўніка літоўскай фірмы. Мяркуецца, што яго прысутнасць неўзабаве выльецца для лясгаса заключэннем кантрактаў.

Што да аўкцыёну, то ён прайшоў удала, бо ўсе выстаўленыя лоты былі прададзеныя. Кошт на іх вырастаў да двух, а асобных дзялянак - да двух з паловай разоў ад першапачатковага.

Хутка плануецца правесці новы аўкцыён.

*Мар'ян ВЯНГРОЎСКІ.*

## Не можа быць

# Анатоль Язерскі пацвердзіць

***ВІЛЕЙКА. Аляксею Аўрошку 52, ІІ група інваліднасці па агульных захворваннях. Па яго словах, 5 разоў сустракаўся з іншапланецянамі.***

Як псіхічна хворы, на ўліку не стаіць. Ведае ў раёне месца, найбольш спрыяльнае для неапазнаных лятальных аб'ектаў. Гэта чатырохвугольнік вёсак Латыгаль-Стайкі-Рабунь-Карпавічы.

Першы раз сустрэў незнаёмцаў у 9 год ля вёскі Вераб'ёўка. Апошні - 7 год таму. Тады яму паставілі дыягназ: рак ныркі. Пасля аперацыі "незнаёмцы" нечым павадзілі па целе і сказалі, што пухліны расці больш не будуць. Ад таго часу фізічны стан Аляксея стабільны.

А яшчэ Аўрошка стаў вернікам. Моліцца, каб у жыцці ўсё заставалася, як ёсць,- маці, дачка, якая выбрала сабе бацькаву спецыяльнасць ветурача, скончыла Ільянскі тэхнікум.

Галоўнае, каб не прыйшлося разлічвацца з некім за тое, што жывы.

Да аповяду Аўрошкі паставіўся крытычна. Але чаго ў гэтым жыцці не бывае? Аўрошка раіць звярнуцца да свайго былога школьнага настаўніка ў Малявічах. Маўляў, Анатоль Язерскі пацвердзіць дакладнасць слоў.

*Віця КАРАНІК.*

## Выстаўкі

# Запрашае Аляксей Фяцісаў



***МАЛАДЗЕЧНА. Персанальная выстаўка фотаработ Аляксея Фяцісава адкрылася ў памяшканні музычнай школы духавых інструментаў, што па вул. Янкі Купалы, 110.***

У экспазіцыі каля 60 лепшых работ фотамастака, якія ён зрабіў за апошнія гады. На адкрыцці было сказана нямала цёплых слоў з падзякай за яго майстэрства. Выстаўка прадоўжыцца да 30 кастрычніка.

*Людміла ЯФРЭМАВА.*

# ...будзе скардзіцца ў Маскву

*Пачатак на 1-й стар.*

Газ, як і вада, не падаздзены, выкарыстоўваюцца балоны. Сёння жанчына збірае галінкі - хутка марозы. Дах цячэ. Пад самым дзіравым месцам гніе падлога. Вокны не расчыніш - гойсаюць машыны.

- Засынаю гадзіны ў тры, калі канчаткова сціхне за вокнамі рух, - гаворыць Рынкевіч. - Часцяком п'яніцы пад дзвярыма туалет наладжваюць ці на лаўцы выпіваюць. Праз гэта і сабаку завяла. Цяпер толькі і маю Дзінгу ды тры яблыні, што не ссеклі.

Нядаўна прыйшла новая бяда. Ля дома распачалося будаўніцтва. Па словах пенсіянеркі, яблыні ўсе ссеклі. Туалет знеслі. Ля ўвахода паклалі будматэрыялы. Трактар амаль на ганак заязджае. А калі забіваюць палі, дом трасецца, быццам у перадсмяротных сутаргах.

- Я 40 гадоў цягала на насілках хворых. Няўжо не маю права дажыць пачалавечы, - гаворыць Рынкевіч, замазваючы нечым печку, якая чадзіць. - Сама я з Расіі. Муж ваенны, накіравалі служыць у Таджыкістан. Вядома, я з ім паехала. Але не было там шчасця. Дзеці нарадзіліся і памiралі. Я напісала на імя Варашылава, каб перавялі мужа. Так апынуліся ў Маладзечне.

Жанчына добра разумее, што з'яўляецца грамадзянкай Беларусі. Але, можа па звычцы, дадае:

- Трэба ў Маскву скардзіцца. Як вы лічыце?

*Васіль САВІЦКІ.*

## Пад градусам

# Дзеці п'юць першачок

***ВАЛОЖЫН. Падчас рэйду ўчастковы знайшоў ля самагоннага апарата вайсковыя штаны, на якіх, як і належыць, значылася прозвішча ўладальніка. Жартаўнік-міліцыянер паклаў побач запіску: "Таварыш Сямёнаў. Завітайце ў РАУС для рэгістрацыі самагоннага апарата". Назаўтра самагоншчык заявіўся ў міліцыю, усур'ёз думаючы, што саматужная вытворчасць гарэлкі будзе ўзаконеная.***

На Валожыншчыне глыбокія карані самагонаварэння. За першае паўгоддзе асобамі пад градусамі здзейснена 64 злачынствы. Гэта практычна кожнае другое з зафіксаваных. Прыкладна ў 80% выпадкаў людзі пілі самагон. Самыя злосныя месцы па вырабе самагонкі ля Спайкоўшчыны, Рума, Пяршаяў, у Івянецкім напрамку. Наогул, самагон можна набыць у любым населеным пункце і ў любы час за 25-30 тысяч.

Прыкладна раз на тыдні міліцыя праводзіць рэйды па "пажыўных месцах". За адзін з апошніх выездаў у лясы Пяршайска-Івянецкай зоны выяўлена 18 самагонных апаратаў. Бывае, чужым дзядзькам у вытворчасці дапамагаюць падлеткі. З якімі дарослыя разлічваюцца першачком.

*Таццяна ШАБЛЫКА.*

## Поўныя кішэні музыкі

# "Зоркі" з "Музычнай лесвіцы"

***АСТРАВЕЦ. Якая дзяўчынка, убачыўшы па тэлевізары знакамітую эстрадную спявачку, не марыць быць у полі зроку, стаць знакамітай? І хаця гэта няпроста, але тыя, хто танчыць і спявае ў студыі "Музычная лесвіца", салодкі смак папулярнасці ўжо адчулі.***

Адна з іх, **Насця Кузьміцкая**, вучыцца ў СШ №2, а ўжо не адзін раз выступала ў раёне, у тэлевізійных конкурсах "Тэлебом" і "Усе мы родам з дзяцінства".

Трэба аддаць належнае кіраўніку "Музычнай лесвіцы" **Аляксандру Якіменку**, бо, дзякуючы яго намаганням, на раённай эстрадзе з'яўляюцца новыя "зоркі". Яскрава засведчыў гэта III Усебеларускі тэлевізійны фестываль юных талентаў "Усе мы родам з дзяцінства", у якім бралі ўдзел і астравецкія спевакі. Днямі ў Гродне праходзіў адборачны тур конкурсу з удзелам прадстаўнікоў Ашмянаў, Ліды, Верцялішак, Слоніма і іншых.

Запамінальным ён стане для астраўчанкі **Марыны Бей**. У палацы "Хімік" яна перад прыдзірлівым журы выканала песню "Хатабыч" і прыемна ўразіла не толькі яго членаў, але і гледачоў. Марына атрымала права ўдзельнічаць у фінальнай частцы ў Мінску. Дапамагла перамагчы аранжыроўка да песні ашмянчука **Уладзіміра Сакалова**.

Пасля вяртання з Гродна я ўзяў у будучай "зоркі" першае ў яе жыцці інтэрв'ю.

**- Як ты, Марына, пачала спяваць?**

- Даволі проста. Гады два таму да нас у клас прыйшоў Аляксандр Якіменка і прапанаваў паспрабаваць сябе на сцэне. Я згадзілася і з таго часу спяваю. А ўдзел у конкурсе - гэта маё найбольшае дасягненне.

**- Што адчувала перад выхадам на сцэну! Ці спадзявалася на перамогу?**

- Не. Спачатку адолеў страх, а калі пачала спяваць, то ўсё прайшло.

**- Кім ты бачыш сябе ў дарослым жыцці! Спявачкай?**

- Раней марыла стаць актрысай. А цяпер не супраць і спявачкай. Трэба спадзявацца, што так і будзе.

*Мар'ян ВЯНГРОЎСКІ.*

# Белы Сон

***Гурт "Белы Сон" быў заснаваны ў Польшчы, дзе і развіваецца, грае па сённяшні дзень. Нягледзячы на тое, што гурт беларускамоўны, ён так і не стаў вядомым на Беларусі.***

На жаль, мы няшмат ведаем пра музычнае жыццё Польшчы. Да сённяшняга часу ў Беластоку праходзіць фэст беларускай маладзёжнай песні, які пераджыў амаль усе мінскія (ды і не толькі) рок-фэсты і паказаў сваю жыццястойкасць. Акрамя "Белага Сну", у Польшчы існуюць такія беларускамоўныя гурты, як "Кардон", "Брага", "Вядро", "A. S", "Зэ дзверы".

Альбом "Белага Сну" быў запісаны на польскім радыё "Беласток" і выдадзены Асацыяцыяй беларускіх журналістаў Беластока. "Белы Сон" - гурт эстрадны і вельмі меладычны, а галасы вакаліста гурта - Яна Хоха і Марты Драл - проста зачароўваюць. Для сваіх песень гурт выкарыстоўвае вершы вядомых беларускіх паэтаў - Янкі Купалы, Ларысы Геніюш, Віктара Шведа і інш. Калі вы прыхільнік спакойнай, меладычнай, якаснай музыкі, вам спадабаецца гэтая касета.

# Песнярок

***А ўсім аматарам беларускай рок-музыкі павінна спадабацца касета, якая нядаўна з'явілася ў продажы, і CD новага праекта беларускіх гуртоў - "Песнярок".***




Гэты праект уяўляе сабой запіс песень ансамбля "Песняры" у выкананні вядучых беларускіх рок-гуртоў - "НРМ", "Нейра Дзюбель", "Ляпіс Трубецкой", "Троіца", "Тарнада", "Валік Грышко", "The Stokes", "The Cranks". "Песнярок" - першая касета, якую выдала новая студыя "Пан Рэкардз", створаная пры часопісе "Уши". Вельмі прыемна, што на праект звярнулі ўвагу такія фірмы, як "Vigma", "Радые Рокс", "ART studio", дзякуючы якім і пабачыла свет гэтая касета, запісаная, дарэчы, у самай прыстойнай студыі - у Мазыры. Так што, аматары беларускага року, не спіце! Шукайце касету ў кіёсках.

*Віталь СУПРАНОВІЧ.*

Касеты можна набыць у Маладзечне (давведкі па тэлефоне **53769**, Алесь), Мінску (**310408**, **490888**, Віталь) і Гродне (**66160**, Вераніка).

# ПРАГРАМА
# Т Э Л Е Б А Ч А Н Н Я

## ПОНЕДЕЛЬНИК 27 ОКТЯБРЯ

### БТ

7.30 Утренний коктейль.
7.45, 17.55 "Музыкальная обойма".
7.50 М/ф.
8.00 Резонанс.
8.50 "Телебарометр".
9.00 Здоровье.
9.30, 17.45 Экономикст.
9.40 Вселенная.
10.10 Телевизионный Дом кино.
10.35 Темная комната.
11.00, 18.15 "Долгая дорога в дюнах". 5-я с.
12.10 Зеркало.
12.30 Бонтон.
13.00, 15.00, 18.00, 23.55 Новости.
13.10 "Гамлет". Спектакль Театра киноактера.
15.15 Видеокурс немецкого языка.
15.35 М/ф.
16.00 ТВ — школе. Человек и мир.
16.15 На добрый лад.
16.30 Гости в дом.
17.00 Музыкальный антракт.
17.10 Параграф.
19.25 Тема дня.
19.40 "Се человек".
20.10 Криминальная хроника.
20.30 Музыкальный антракт.
20.40 Колыбельная.
21.00 Панорама.
21.50 "Кто это?"
22.00 "Рожденная революцией". Х/ф. 1-я с.
23.10 Концертный сезон.

### ОРТ

8.00, 11.00, 14.00, 17.00, 0.05 Новости.
8.15 "Девушка по имени Судьба".
9.00 Поле чудес.
10.00 Здоровье.
10.30 Угадай мелодию.
14.20 "Драконы подземелий". М/ф.
14.45 Марафон-15.
15.05 Звездный час.
15.40 "Космическая полиция".
16.05 ...До шестнадцати и старше.
16.30 "100 лет приключений".
17.20 "Девушка по имени Судьба".
18.00 Погода.
18.10 Час пик.
18.35 Угадай мелодию.
19.00 "Гибель галантного века".
19.45 Спокойной ночи, малыши!
20.00 Время.
20.45 "Полтергейст-2".
21.50 "Серебряный шар".
22.35 Х/ф "Похождения зубного врача".

### РТР

7.00, 10.00, 16.00, 19.00, 22.00 Вести.
7.20, 23.10 Дежурная часть.
7.35 "Океан".
8.25 "Стронг" представляет.
8.30 Компьютер.
8.40 М/ф.
8.50, 9.50, 0.30 Товары — почтой.
9.00 "Санта-Барбара".
13.30 На пороге века.
14.00 Теннис. "Кубок Кремля".
16.20 Православный календарь.
16.25 "Санта-Барбара".
17.15, 0.25 Прогноз погоды.
17.20 Лукоморье.
17.40 "История одного события".
17.55 "Океан".
18.50 Мой Пушкин.
19.25 Подробности.
19.45 Национальный интерес.
20.15 "Взгляд сквозь тоннель". Х/ф (Австралия).
22.20 Вовремя.
22.25 Добрый вечер.
23.30 Теннис. "Кубок Кремля".
24.00 Лестница в небо.

### 5

12.30, 15.30, 18.30, 21.30 Информ ТВ.
12.45 "Пожар". Мини-сериал (Австралия).
13.35 Срок ответа — сегодня.
14.05 Советы садоводам.
14.25 Театральная провинция?..
14.55 Международное обозрение.
15.40, 20.30 Телеслужба безопасности.
15.55, 20.00 Телестанция "Моя Россия".
16.40 Детское ТВ.
17.25 Телемагазин.
18.45 Спорт.
18.55 Большой фестиваль.
19.10 "Пожар". Мини-сериал (Австралия).
20.45 Пенальти.
21.45 Информ ТВ.
21.50 Спорт.
21.55 Ритмы города.
22.30 "Свободный полет".

### НТВ

5.00, 9.00 Сегодня утром.
8.05 "Крутой Уокер: правосудие по-техасски".
9.15 "Маски-шоу": избранное.
9.45 Кнопка плюс.
10.00 "Доктор Куин, женщина-врач".
11.00, 13.00, 15.00 Сегодня днем.
11.20 Старый телевизор.
13.20 Х/ф "Служанка" (США-Франция).
15.30 "Улица Сезам".
16.00 Док. фильм "Войны мафии".
16.50 Криминал.
16.55 Впрок.
17.10 Дистанция.
17.40 Футбольный клуб.
18.00, 21.00 Сегодня вечером.
18.40 Герой дня.
19.00 Х/ф "Военная академия" (США).
21.45 "Доктор Куин, женщина-врач".
22.35 Сегодня чко.
23.00 Сегодня в полночь.
23.25 Синемания: все о кино.

### ТВ-6

6.05 М/ф "Первая скрипка".
6.30, 23.15 Диск-канал.
7.00 Дорожный патруль.
7.20 Киноподробно.
7.45 Аптека.
8.00, 11.00, 14.00, 20.00, 22.45 Шесть новостей.
8.15 Спорт недели.
8.50 "ОСП-студия".
9.40, 19.00 "Хроники молодого Индианы Джонса".
10.30, 13.15, 15.45 Телемагазин.
10.45 Аптека.
11.10 Х/ф "Сибирская леди Макбет" (Югославия).
12.55 Знак качества.
13.45 Аптека.
14.10 Х/ф "Отцы и деды".
16.05 "Флиппер".
16.35 Дорожный патруль.
16.55 Киноподробно.
17.10 Спорт недели.
17.50 "Грейс в огне III".
18.25 Катастрофы недели.
20.10 "Любишь — смотри".
20.20, 21.15 "Big Star" представляет....
20.20 Ток-шоу "Музыка и пресса".
21.20 Театральный понедельник.
23.00 Дорожный патруль.

## ВТОРНИК 28 ОКТЯБРЯ

### БТ

7.30 Утренний коктейль.
7.45, 17.55 "Музыкальная обойма".
7.50 "Колесо судьбы".
8.00, 13.00, 15.00, 18.00, 0.10 Новости.
8.10 "Ты взойди, солнце красное". Фильм-концерт.
9.00 ТВ — школе. Человек и мир.
9.15 М/ф.
9.30, 17.45 Экономикст.
9.40 "За лесами, за горами". Х/ф.
10.45 Четвертое измерение.
11.15, 18.15 "Долгая дорога в дюнах". 6-я с.
12.30 Акколада.
13.10 "Гамлет". Спектакль.
15.15 М/ф.
15.40 Остров вдохновения.
16.10 ТВ — школе. Белорусская литература.
16.40 Пограничье.
17.00 Музыкальный антракт.
17.10 Уроки Н.Новожиловой.
19.30 Тема дня.
19.55 Вертикаль.
20.25 Осень — работ восемь.
20.40 Колыбельная.
21.00 Панорама.
21.50 "Рожденная революцией". 2-я с.
23.15 Музыка без границ.
23.40 Третий тайм.

### ОРТ

8.00, 11.00, 14.00, 17.00, 0.25 Новости.
8.15 "Девушка по имени Судьба".
9.00 "Гибель галантного века".
9.40 Смехопанорама.
10.15 Домашняя библиотека.
10.30 Угадай мелодию.
14.20 "Драконы подземелий". М/ф.
14.45 Кварьете "Веселая квампания".
14.55 Счастливый случай.
15.40 "Космическая полиция".
16.05 ...До шестнадцати и старше.
16.30 "100 лет приключений".
17.20 "Девушка по имени Судьба".
18.00 Погода.
18.10 Час пик.
18.35 Угадай мелодию.
19.00 "Гибель галантного века". Передача 2-я.
19.45 Спокойной ночи, малыши!
20.00 Время.
20.45 Х/ф "Живет такой парень".
22.45 Хоккей. Евролига.
0.25 Х/ф "Поворот винта".

### РТР

7.00, 10.00, 16.00, 19.00, 22.00 Вести.
7.20, 23.10 Дежурная часть.
7.35 "Океан".
8.30 Деньги.
8.50, 9.50, 1.00 Товары — почтой.
9.00 "Санта-Барбара".
13.30 Новое "Пятое колесо".
14.00 Теннис.
16.20 Православный календарь.
16.25 "Санта-Барбара".
17.15, 0.55 Прогноз погоды.
17.20 Лукоморье.
17.40 История одного события.
17.55 "Океан".
19.25 Подробности.
19.45 Национальный интерес.
20.20 Х/ф "Первый троллейбус".
21.50 Мой Пушкин.
22.20 Вовремя.
22.25 Добрый вечер.
23.30 Теннис.
24.00 Звуковая дорожка.

### 5

12.30, 15.30, 18.30, 21.30 Информ ТВ.
12.45 "Пожар".
13.35 Срок ответа — сегодня.
14.05 Советы садоводам.
14.25 Оперная сенсация.
14.55 "Овертайм".
15.40, 20.30 Телеслужба безопасности.
15.55, 20.00 Телестанция "Моя Россия".
16.40 Детское ТВ.
17.25 Телемагазин.
18.45 Спорт.
18.55 Большой фестиваль.
19.10 "Пожар".
20.45 "Закулисье".
21.45 Информ ТВ.
21.50 Спорт.
21.55 "Пчелка". Х/ф.

### НТВ

5.00, 9.00 Сегодня утром.
8.05 "Крутой Уокер: правосудие по-техасски".
9.15 Дог-шоу.
9.45 "Итого" с Виктором Шендеровичем.
10.00 "Доктор Куин, женщина-врач".
11.00, 13.00, 15.00 Сегодня днем.
11.20 Старый телевизор.
13.20 Х/ф "На улицах Лос-Анджелеса" (США).
15.30 "Улица Сезам".
16.00 Д/ф. "Исчезнувшие цивилизации".
16.50 Криминал.
16.55 Впрок.
17.10 Дистанция.
17.40 Футбольный клуб.
18.00, 21.00 Сегодня вечером.
18.40 Герой дня.
19.00 Х/ф "Сегун Маэда" (США).
21.45 "Доктор Куин, женщина-врач".
22.35 Сегодня чко.
23.00 Сегодня в полночь.
23.25 "Жизнь в танце и жизнь наяву".

### ТВ-6

6.05 М/ф.
6.35, 23.45 Диск-канал.
7.05 Дорожный патруль.
7.20 Рецепты от "Цептер".
7.25 Телеконкретно.
7.45 Аптека.
8.15 "Обоз".
9.10, 10.30, 13.10 Телемагазин.
9.40 "Хроники молодого Индианы Джонса".
10.45 Аптека.
11.10 Х/ф "Секретный агент" (Великобритания).
12.50 Знак качества.
13.45 Аптека.
14.10 Х/ф "Наш дом".
16.05 "Флиппер".
16.35 Телеконкретно.
16.50 "Обоз".
17.50 "Грейс в огне III".
18.25 Те Кто.
19.00 "Хроники молодого Индианы Джонса".
20.10 "Любишь — смотри".
20.25 Ток-шоу "Профессия".
21.25 Х/ф "Какая чудная игра".
23.30 Дорожный патруль.
0.30 Знак качества.
0.55 Ночной Диск-канал "Дрема".



## СРЕДА 29 ОКТЯБРЯ



### БТ

7.30 Утренний коктейль.
7.45, 17.55 "Музыкальная обойма".
7.50 М/ф.
8.00, 13.00, 15.00, 18.00, 24.00 Новости.
8.10 Бездельник.
8.40 Туробъектив.
9.00 ТВ — школе. Белорусская литература.
9.30, 17.45 Экономикст.
9.40 "Все дело в шляпе".
10.15 Компьютерный полигон.
10.40, 18.15 "Долгая дорога в дюнах".
11.55 Видимо-невидимо.
15.15 Видеокурс немецкого языка.
15.35 "Синюшкин колодец". Х/ф.
16.05 "5 х 5".
16.30 Гости в дом.
17.00 Музыкальный антракт.
17.10 Арсенал.
19.30 Тема дня.
19.55 Ток-шоу "Это моя работа".
20.25 Авто-парк.
20.40 Колыбельная.
21.00 Панорама.
21.45 "Цептер".
21.50 "Рожденная революцией". 3-я с.
23.15 Темная комната.
23.40 Крок.
0.10 Королевская охота.

### ОРТ

8.00, 11.00, 14.00, 17.00, 23.10 Новости.
8.15 "Девушка по имени Судьба".
9.00 "Гибель галантного века".
9.40 В мире животных.
10.15 Домашняя библиотека.
10.25 Джентльмен-шоу.
14.20 "Пакахонтес". М/ф.
14.45 Кактус и К.
14.55 До-ми-соль.
15.15 Зов джунглей.
15.40 "Космическая полиция".
16.05 ...До шестнадцати и старше.
16.30 "100 лет приключений".
17.20 "Девушка по имени Судьба".
18.00 Погода.
18.10 "Золотая лихорадка".
18.45 "Гибель галантного века". Передача 3-я.
19.25 Футбол. Отборочный матч Чемпионата мира.
20.15 Время.
20.30 2-й тайм отборочного матча.
21.30 Х/ф "Смертельная схватка".
23.30 Х/ф "Жерминаль".

### РТР

7.00, 10.00, 16.00, 19.00, 22.00 Вести.
7.20, 23.10 Дежурная часть.
7.35 "Океан".
8.25 "Стронг" представляет.
8.30 Деньги.
8.50, 9.50, 0.30 Товары — почтой.
9.00 "Санта-Барбара".
13.30 Золотая карта России.
14.00 Теннис.
16.20 Православный календарь.
16.25 "Санта-Барбара".
17.15, 0.25 Прогноз погоды.
17.20 Лукоморье.
17.40 История одного события.
17.55 "Океан".
18.50 Мой Пушкин.
19.25 Подробности.
19.45 Национальный интерес.
20.15 Х/ф "Подпольные асы" (США).
22.20 Вовремя.
22.25 Добрый вечер.
23.30 Теннис.
24.00 Лестница в небо.

### 5

12.30, 15.30, 18.30, 21.30 Информ ТВ.
12.45 "Пожар".
13.35 Срок ответа — сегодня.
14.05 Советы садоводам.
14.25 "Закат Римской империи".
14.55 Папа, мама и я — спортивная семья.
15.40, 20.30 Телеслужба безопасности.
15.55, 20.00 Телестанция "Моя Россия".
16.40 Белая полоса.
17.25 Телемагазин.
18.45 Спорт.
18.55 Большой фестиваль.
19.10 "Пожар".
20.45 Сокровища Петербурга.
21.00 "Парадоксы истории".
21.45 Информ ТВ.
21.50 Спорт.
21.55 "За последней чертой". Х/ф.

### НТВ

5.00, 9.00 Сегодня утром.
8.05 "Крутой Уокер: правосудие по-техасски".
9.15 "Пойми меня".
9.45 Куклы.
10.00 "Доктор Куин, женщина-врач".
11.00, 13.00, 15.00 Сегодня днем.
11.20 Старый телевизор.
13.15 Среда.
13.30 Х/ф "Месье Ир" (Франция).
15.30 "Улица Сезам".
16.00 Д/ф. "Исчезнувшие цивилизации".
16.50 Криминал.
16.55 Впрок.
17.10 Дистанция.
17.40 Футбольный клуб.
18.00, 21.00 Сегодня вечером.
18.40 Герой дня.
19.00 Х/ф "Голубая сталь" (США).
21.45 "Доктор Куин, женщина-врач".
22.35 Сегодня чко.
23.00 Сегодня в полночь.
23.25 Х/ф "Холодные закуски" (Франция).

### ТВ-6

6.05 М/ф.
6.35, 17.05 23.25 Диск-канал.
7.05 Дорожный патруль.
7.20 Рецепты от Цептер.
7.25, 10.30, 13.20 Телемагазин.
7.45 Аптека.
8.00, 11.00, 14.00, 20.00, 22.55 Шесть новостей.
8.15 Ток-шоу "Профессия".
9.05 "Пальчики оближешь".
9.40 "Хроники молодого Индианы Джонса".
10.45 Аптека.
11.10 Х/ф "Юнона и Павлин" (Великобритания).
13.00 Знак качества.
13.45 Аптека.
14.10 Х/ф "Когда разводят мосты".
16.05 "Флиппер".
16.35 Катастрофы недели.
17.50 "Грейс в огне III".
18.25 Те Кто.
19.00 "Хроники молодого Индианы Джонса".
20.10 "Любишь — смотри". Видеоклипы.
20.25 Ток-шоу "Я сама".
21.25 Х/ф "Дети Дон-Кихота".
23.10 Дорожный патруль.
0.10 Знак качества.
0.35 "Дрема".

## ЧЕТВЕРГ 30 ОКТЯБРЯ

### БТ

7.30 Утренний коктейль.
7.45, 17.55 "Музыкальная обойма".
7.50 Авто-парк.
8.00, 13.00, 15.00, 18.00, 0.00 Новости.
8.10 Вертикаль.
8.35 Королевская охота.
9.15 М/ф.
9.30, 17.45 Экономикст.
9.40 "Улыбка Белой королевы".
10.40, 18.15 "Вольный ветер". Х/ф. 1-я с.
11.45 Гости в дом.
12.15 "Кармина Бурана". Спектакль.
15.15 М/ф.
15.45 ТВ — школе. Белорусская литература.
16.10 "Дядька Язэп". Док. фильм.
16.30 Родное слово.
17.00 Музыкальный антракт.
17.10 Уроки Н.Новожиловой.
19.20 Тема дня.
19.40 Сделано в Беларуси.
19.55 Творцы.
20.25 Поэтическая строка.
20.40 Колыбельная.
21.00 Панорама.
21.50 Телебарометр.
22.05 "Рожденная революцией". 4-я с.
23.40 Крок.
0.10 КВН.

### ОРТ

8.00, 11.00, 14.00, 17.00, 23.15 Новости.
8.15 "Девушка по имени Судьба".
9.00 "Гибель галантного века".
9.40 Пока все дома.
10.15 Домашняя библиотека.
10.30 Угадай мелодию.
14.20 М/ф "Невероятные приключения Джонни Квеста".
14.45 Волшебный мир, или Синема.
15.15 Лего-го!
15.40 "Космическая полиция".
16.05 ...До шестнадцати и старше.
16.30 "100 лет приключений".
17.20 "Девушка по имени Судьба".
18.00 Погода.
18.10 Час пик.
18.35 Угадай мелодию.
19.00 "Гибель галантного века". Передача 4-я.
19.45 Спокойной ночи, малыши!
20.00 Время.
20.45 Х/ф "Затерянный в Сибири".
22.50 "Каскадеры. Мир трюков".
23.35 Х/ф "Путешественник".

### РТР

7.00, 10.00, 16.00, 19.00, 22.00 Вести.
7.20, 23.10 Дежурная часть.
7.35 "Океан".
8.25 "Стронг" представляет.
8.30 Деньги.
8.50, 9.50, 0.45 Товары — почтой.
9.00 "Санта-Барбара".
13.30 Ваше сословие.
14.00 Теннис.
16.20 Православный календарь.
16.25 "Санта-Барбара".
17.15, 0.40 Прогноз погоды.
17.20 Лукоморье.
17.40 История одного события.
17.55 "Океан".
19.25 Подробности.
19.45 Национальный интерес.
20.15 "Собачий нос".
21.10 Сам себе режиссер.
21.45 Мой Пушкин.
22.20 Вовремя.
22.25 Добрый вечер.
23.30 Теннис.
24.00 Кафе "Обломов".

### 5

12.30, 15.30, 18.30, 21.30 Информ ТВ.
12.45 "Пожар".
13.35 Срок ответа — сегодня.
14.05 Советы садоводам.
14.25 Парадоксы истории.
14.55 "Долина детства". Поэзия Николая Рубцова.
15.40, 20.30 Телеслужба безопасности.
15.55, 20.00 Телестанция "Моя Россия".
16.40 Детское ТВ.
17.25 Телемагазин.
18.45 Спорт.
18.55 Большой фестиваль.
19.10 "Пожар".
20.45 Дом кино.
21.45 Информ ТВ.
21.50 Спорт.
21.55 "Телекомпакт".

### НТВ

5.00, 9.00 Сегодня утром.
8.05 "Крутой Уокер: правосудие по-техасски".
9.15 "Пойми меня".
9.45 "Котовасия".
10.00 "Доктор Куин, женщина-врач".
11.00, 13.00, 15.00 Сегодня днем.
11.20 Старый телевизор.
13.20 Х/ф "Место действия — США" (США).
15.30 "Улица Сезам".
16.00 Д/ф. "Исчезнувшие цивилизации".
16.50 Криминал.
16.55 Впрок.
17.10 "Дистанция" + "Щелчок".
18.00, 21.00 Сегодня вечером.
18.40 Герой дня.
19.00 Х/ф "Преступление" (Франция).
20.40 "Алло, Фима!"
21.45 "Доктор Куин, женщина-врач".
22.35 Сегодня чко.
23.00 Сегодня в полночь.
23.25 "Портрет Вернера Херцога" (Германия).
23.55 Х/ф "Строшек" (Германия).

### ТВ-6

6.05 М/ф.
6.35, 16.35 23.40 Диск-канал.
7.05 Дорожный патруль.
7.20 Рецепты от "Цептер".
7.25, 13.20, 15.40 Телемагазин.
7.45 Аптека.
8.00, 11.00, 14.00, 20.00, 23.10 Шесть новостей.
8.15 Ток-шоу "Мое кино".
9.05 Нью-Йорк, Нью-Йорк.
9.40 "Хроники молодого Индианы Джонса".
10.45 Аптека.
11.10 Х/ф "Конец игры" (ФРГ-Италия).
13.10 Знак качества.
13.45 Аптека.
14.10 Х/ф "Личная жизнь Кузяева Валентина".
15.30 Знак качества.
16.05 Сериал "Флиппер".
17.20 Нью-Йорк, Нью-Йорк.
17.50 "Грейс в огне III".
18.25 Те Кто.
19.00 "Хроники молодого Индианы Джонса".
20.10 "Любишь — смотри".
20.25 Ток-шоу "Сделай шаг".
21.25 Х/ф "Дайте жалобную книгу".
23.25 Дорожный патруль.
0.25 Знак качества.
0.50 "Дрема".

